ЗМЕСТ

# СІТУАЦЫЯ Ў СФЕРЫ СМІ Ў 2020 годзе (АГЛЯД)

2020 год аказаўся для беларускіх медыяў найцяжэйшым за ўвесь час маніторынгу становішча ў сферы СМІ. Колькасць атакаў на журналістаў, блогераў і СМІ рэзка ўзрасла. Улады спрабавалі процідзейнічаць распаўсюду інфармацыі пра COVID-19 у краіне, а таксама пра палітычны і прававы крызіс, звязаны з прэзідэнцкімі выбарамі.

Беларусь аказалася адной з нешматлікіх еўрапейскіх краінаў, у якіх не быў абвешчаны каранцін у сувязі з COVID-19, і, больш за тое, афіцыйныя асобы доўгі час наогул адмаўлялі сур'ёзнасць гэтага захворвання. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка доўгі час называў пандэмію «псіхозам» і «інфадэміяй» і заклікаў Міністэрства інфармацыі і сілавыя структуры змагацца з распаўсюдам «хайпу» на тэму каронавіруса. 21 сакавіка ён публічна **звярнуўся** да старшыні Камітэта дзяржбяспекі Валерыя Вакульчыка з заклікам разабрацца з «нягоднікамі, якія ўкідваюць фэйкі» (пра смерці, звязаныя з COVID-19): «*Ужо хопіць на гэта глядзець. Трэба дбайна прайсціся па гэтых сайтах, каналах*».

6 красавіка Міністэрства інфармацыі вынесла пмсьмовае папярэджанне ўладальніку сайта «Медыя-Палессе» (Media-polesye.by). Мініфарм пазначыў, што ў публікацыі пра каранавірус у рэгіёне "ўтрымлівалася недакладная інфармацыя пра смерць пацыента, распаўсюд якой здатны нанесці шкоду дзяржаўным і грамадскім інтарэсам». Яшчэ праз некалькі дзён міліцыя абвінавацiла «Медыя-Палессе» у тым, што інфармацыя, апублікаваная на сайце, нанесла шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь і «*паспрыяла нагнятанню сацыяльнай напружанасці ў грамадстве, стварэнню панічных настрояў, вядзе да масавага дэзінфармавання насельніцтва*». 13 траўня суд Лунінецкага раёна аштрафаваў рэдакцыю сайта «Медыя-Палессе» на 120 базавых велічыняў (каля 1250 еўра паводле курсу Нацбанка Рэспублікі Беларусь) паводле ч. 3-1 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях («Распаўсюд сродкам масавай інфармацыі інфармацыі, распаўсюд якой забаронены ў сродках масавай інфармацыі...»).

Гэтыя падзеі адбываліся на фоне паўсюдных адмоваў журналістам у атрыманні інфармацыі пра эпідэміялагічную сітуацыю. Міністэрства аховы здароўя не давала журналістам і грамадству аператыўнай і дакладнай інфармацыі пра распаўсюд COVID-19 у краіне. Апошні брыфінг Міністэрства аховы здароўя для журналістаў, на якім яны маглі б задаваць пытанні прадстаўнікам міністэрства, адбыўся 17 красавіка.

Абсалютная большасць нападаў на журналістаў і медыі ў 2020 годзе былі звязаныя з асвятленнем імі выбараў, якія адбыліся ў жніўні, і акцыяў пратэсту, якія прайшлі пасля іх. У 95% выпадкаў «агрэсарамі» выступалі прадстаўнікі ўлады (супрацоўнікі сілавых структураў, пасадовыя асобы і г.д.). Найбольш масавым тыпам парушэння правоў журналістаў былі іх затрыманні. **БАЖ зафіксаваў 481 затрыманне за год, што больш як у два разы, чым за папярэднія шэсць гадоў, разам узятыя**. Папярэднім «пікавым» годам быў поствыбарчы 2011 год, калі журналістаў затрымоўвалі 167 разоў. Амаль столькі ж журналістаў было затрымана толькі ў жніўні 2020 года – 160 асобаў.

Затрыманні і арышты журналістаў часцяком суправаджаліся пашкоджаннем і канфіскацыяй прафесійнай тэхнікі, выдаленнем адзнятых матэрыялаў, гвалтам.

У Мінску былі зафіксаваныя тры выпадкі застасавання агнястрэльнай зброі ў адносінах да журналістак падчас іх працы на акцыях пратэсту, у выніку чаго яны атрымалі раненні. Гэтак, 10 жніўня журналістка «Нашай Нівы» Наталля Лубнеўская была параненая гумовай куляй, калі адзін з супрацоўнікаў праваахоўных органаў спыніўся ў 10 метрах ад групы журналістаў у камізэльках «Прэса» і стрэліў журналістцы ў нагу ў момант, калі яна здымала падзеі. Лячэнне ў шпіталі заняло больш за месяц.

Павялічылася колькасць крымінальных справаў, якія былі ўзбуджаныя супраць журналістаў і медыяспецыялістаў. За год крымінальны пераслед зазналі 15 прадстаўнікоў медыяў, 9 з якіх да пачатку 2021 года заставаліся за кратамі. Найбольшы розгалас атрымалі крымінальныя справы супраць журналістак тэлеканала «Белсат» **Кацярыны Андрэевай** і **Дар'і Чульцовай** за правядзенне стрыму з масавай акцыі (яны былі абвінавачаны ў арганізацыі масавых пратэстаў), а таксама журналісткі партала TUT.by **Кацярыны Барысевіч** нібыта за разгалошванне ўрачэбнай таямніцы (яна паведаміла нададзеную лекарам інфармацыю пра тое, што ў крыві загінулага пратэстоўца, насуперак завярэнням уладаў, не было алкаголю).

Напрыканцы года была ўзбуджаная крымінальная справа супраць медыяменеджараў і журналістаў «Прэс-клуба», а таксама супраць былой журналісткі дзяржаўнай Белтэлерадыёкампаніі Ксеніі Луцкінай, якая звольнілася пасля выбараў, з нагоды інкрымінаванага ім парушэння падатковага заканадаўства.

Звяртае на сябе ўвагу сістэмнасць ціску ўладаў ва ўсіх сферах, звязаных з медыямі, з застасаваннем разнастайных рэпрэсіўных захадаў. Акрамя ўжо пералічаных, гэта:

- блакаванне ў Беларусі інтэрнэту ў першыя дні пасля выбараў і пастаянныя абмежаванні мабільнага інтэрнэту падчас масавых акцыяў пратэсту;
- абмежаванне доступу да сайтаў, якія незалежна асвятляюць палітычную сітуацыю;
- пазбаўленне статусу СМІ найбуйнейшага ў Беларусі інтэрнэт-партала TUT.BY;
- ціск на папулярныя Telegram- і Youtube-каналы, а таксама лакальныя чаты (ад узбуджэння крымінальных справаў, пераследу адміністратараў, да абвяшчэння іх экстрэмісцкімі матэрыяламі);
- стварэнне перашкодаў для друку і распаўсюду некалькіх недзяржаўных газетаў, што спрычыніла спыненне іх выпуску;
- адмовы ў акрэдытацыі замежным карэспандэнтам і наступнае пазбаўленне акрэдытацыі ўсіх карэспандэнтаў замежных СМІ, якія мелі яе раней;
- звальненні і пераслед журналістаў дзяржаўных СМІ, якія выступілі супраць распаўсюду няпраўдзівай прапагандысцкай інфармацыі.

# ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ СМІ І ЖУРНАЛІСТАЎ, КАНФЛІКТЫ Ў СФЕРЫ СМІ

## Крымінальныя справы

### Справа Сяргея Сацука

**25 сакавіка** быў затрыманы **Сяргей Сацук**, вядомы журналіст і рэдактар, які займаецца журналісцкімі расследаваннямі. Адным з яго гучных расследаванняў была серыя публікацый у анлайн-выданні «Ежедневник» пра карупцыю ў сістэме аховы здароўя Беларусі. Пазней у дачыненні да шэрагу высокапастаўленых пасадовых асоб Міністэрства аховы здароўя былі вынесеныя абвінаваўчыя прысуды за карупцыйную дзейнасць. У жніўні 2019 года Сяргей Сацук у інтэрв'ю БелаПАН заяўляў, што атрымліваў пагрозы з-за сваёй журналісцкай дзейнасці.

Пасля затрымання Сяргея Сацука былі праведзеныя вобшукі ў яго дома і ў офісе «Ежедневника», канфіскаваныя аргтэхніка, дакументы.

Камітэт дзяржаўнага кантролю пракаментаваў затрыманне толькі праз шэсць дзён, абвінаваціўшы журналіста ў атрыманні хабару ў буйным памеры «за падрыхтоўку і размяшчэнне на прыналежным яму сайце артыкула, які ўтрымлівае кампраментуючыя звесткі ў дачыненні да канкурэнтаў суб'екта гаспадарання».

Затрыманне Сяргея Сацука і крымінальная справа ў дачыненні да яго выклікалі рэзкую крытыку з боку беларускай і міжнароднай грамадскасці.

На дзясяты дзень пасля затрымання генеральны пракурор Беларусі адмяніў рашэнне пра ўтрыманне Сяргея Сацука пад вартай. У журналіста ўзялі абавязацельства аб яўцы і вызвалілі.

Аднак крымінальная справа ў дачыненні да яго не была спыненая.

### Справа Кацярыны Андрэевай (Бахвалавай) і Дар'і Чульцовай

**15 лістапада** журналісткі тэлеканала «Белсат» **Кацярына Андрэева (Бахвалава) і Дар'я Чульцова** былі арыштаваныя ў кватэры, з якой вялі прамую трансляцыю жорсткага разгону сілавікамі мірных дэманстрантаў у жылым двары Мінска, які неафіцыйна называецца «Плошча перамен». Уладальніца кватэры заявіла, што дзверы ў памяшканне былі выламаныя, затым каля дзесяці супрацоўнікаў спецпадраздзяленняў уварваліся ўнутр і забралі журналістак. Першапачаткова іх пакаралі арыштам на сем сутак за нібыта ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і непадпарадкаванне міліцыі (арт. 23.34 і арт. 23.4 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях). Пазней супраць журналістак распачалі крымінальную справу паводле . 1 арт. 342 Крыминальнага кодэкса (Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, ці актыўны ўдзел у іх). Да вынясення прысуду больш за тры месяцы іх утрымлівалі пад вартай у СІЗА.

**18 лютага 2021** года Кацярына Андрэева (Бахвалава) і Дар'я Чульцова былі асуджаныя да **двух гадоў пазбаўлення волі**. Гэты прысуд вынесла суддзя Наталля Бугук, справа разглядалася ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска.

## Справа Кацярыны Барысевіч

**19 лістапада** карэспандэнтка TUT.BY **Кацярына Барысевіч** была арыштавана ў сувязі з яе публікацыяй пра акалічнасці смерці 31-гадовага мірнага пратэстоўца Рамана Бандарэнкі, якога жорстка збілі людзі ў масках і адвезлі ў аддзяленне міліцыі. Журналістка, а таксама доктар бальніцы хуткай дапамогі Арцём Сарокін былі абвінавачаныя ў разгалошванні ўрачэбнай таямніцы, якое выклікала цяжкія наступствы (ч. 3 арт. 178 Крымінальнага кодэкса). Падставай для крымінальнага пераследу стала публікацыя медыцынскай інфармацыі пра тое, што ў крыві забітага не было алкаголю, гэта разыходзілася з афіцыйнай версіяй асвятлення інцыдэнту.

Кацярыну Барысевіч утрымлівалі да суда ў СІЗА № 1 Мінска. **2 сакавіка 2021** года ў судзе Маскоўскага раёна Мінска суддзя Святлана Бандарэнка вынесла журналістцы прыгавор: **шэсць месяцаў пазбаўлення волі і штраф** у памеры больш за 1100 долараў.

## Справа «Прэс-клуба»

**22 снежня** супрацоўнікамі Дэпартамента фінансавых расследаванняў былі арыштаваныя шэсць асобаў, звязаных з Культурна-асветніцкай установай «Журналісцкая майстэрня Прэс-клуб»:

1) **Юлія Слуцкая,** заснавальніца (з'яўляецца сябрам Рады ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»),

2) **Ала Шарко**, праграмны дырэктар,

3) **Сяргей Альшэўскі,** фінансавы дырэктар,

4) **Пётр Слуцкі** (сын Юліі Слуцкай), відэааператар,

5) **Ксенія Луцкіна,** журналістка, звязаная з медыяпраектам, якім займалася Акадэмія «Прэс-клуба» (былая супрацоўніца дзяржаўнай Белтэлерадыёкампаніі, звольнілася адтуль на знак пратэсту супраць гвалту з боку ўладаў),

6) **Сяргей Якупаў**, дырэктар Акадэміі «Прэс-клуба».

У офісе «Прэс-клуба» і ў кватэрах чатырох яго супрацоўнікаў прайшлі ператрусы.

Дэпартамент фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю паведаміў, што праводзіць праверку па фактах парушэнняў падатковага заканадаўства Рэспублікі Беларусь у дачыненні да службовых асоб «Прэс-клуба» і іншых суб'ектаў гаспадарання, звязаных у тым ліку з паступленнем буйных грашовых сум з-за мяжы. Вядома, што Акадэмія «Прэс-клуба» ладзіла хакатон медыяпраектаў, скіраваных на прасоўванне свабоды слова, і праект Ксеніі Луцкінай стаў адным з яго пераможцаў.

**31 снежня** пяцёра затрыманых былі абвінавачаныя ва ўчыненні злачынства, прадугледжанага ч. 2 арт. 243 Крымінальнага кодэкса (ухіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры). Сяргею Якупаву, які з'яўляецца грамадзянінам Расійскай Федэрацыі, абвінавачанне прад'яўлена не было, але яго дэпартавалі ў Расію ў той самы дзень.

## Крымінальны пераслед блогераў

Падчас правядзення прэзідэнцкай выбарчай кампаніі ўладамі мэтанакіравана пераследаваліся **блогеры** папулярных анлайн-рэсурсаў. Дзевяць блогераў, у тым ліку патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты **Сяргей Ціханоўскі**, былі заключаныя пад варту як падазраваныя па крымінальнай справе паводле ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса (Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх) і да канца года не вызваленыя. Гэтыя арышты ўяўлялі сабой новую форму адвольных прэвентыўных затрыманняў з мэтай прадухілення распаўсюду інфармацыі аб масавых пратэстах падчас выбарчай кампаніі. Беларуская праваабарончая супольнасць прызнала палітычнымі вязнямі ўсіх блогераў, затрыманых паводле гэтага абвінавачання, а таксама затрыманага ў кастрычніку Эдуарда Пальчыса:

1. **Уладзімір Няронскі,** аўтар YouTube-канала «Слуцк для жыцця». Затрыманы з 8 траўня. Абвінавачванне паводле двух артыкулаў Крымінальнага кодэкса – арт. 342 (арганізацыя групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак) і арт. 369 (абраза чыноўніка) за абразу старшыні Слуцкага райвыканкама.

2. **Сяргей Ціханоўскі**, аўтар YouTube-канала «Краіна для жыцця». Затрыманы з 29 мая. Пазней яму дадаткова было прад'яўленае абвінавачванне паводле арт. 191 КК (Перашкода ажыццяўленню выбарчых правоў).

3. **Дзмітрый Папоў**, мадэратар сацыяльнай сеткі «Краіны для жыцця». Затрыманы з 4 чэрвеня.

4. **Уладзімір Цыгановіч**, аўтар youtube-канала MozgON. Затрыманы з 9 чэрвеня.

5. **Дзмітрый Казлоў,** аўтар YouTube-канала «Шэры кот». Затрыманы з 10 чэрвеня.

6. **Аляксандр Кабанаў,** аўтар YouTube-канала «Народны рэпарцёр» і прэс-сакратар ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай. Затрыманы з 15 чэрвеня.

7. **Сяргей Пятрухін**, аўтар YouTube-каналаў «Народны рэпарцёр» і «Youtube-дэпутаты». Затрыманы з 16 чэрвеня.

8. **Ігар Лосік**, адміністратар тэлеграм-канала «Беларусь галаўнога мозгу». Затрыманы з 25 чэрвеня.

9. **Сяргей Коршун**, аўтар тэлеграм-канала «Армія з народам». Затрыманы 21 ліпеня.

Вядомы палітычны блогер, аўтар тэлеграм-канала Palchys **Эдуард Пальчыс** быў затрыманы **напрыканцы кастрычніка 2020** года пры невядомых абставінах. Ён абвінавачаны ў арганізацыі масавых беспарадкаў (арт. 293 Крымінальнага кодэкса) пасля 30-дзённага знаходжання ў следчым ізалятары, дзе адбываў адміністрацыйны арышт.

**5 лістапада** Упраўленне Следчага Камітэта па Мінску вынесла пастановы аб прыцягненні ў якасці абвінавачаных адміністратараў папулярнага Тэлеграм-канала, прызнанага экстрымісцкім, **Сцяпана Пуцілы і Рамана Пратасевіча** па артыкулах Крымінальнага кодэкса: 293 (арганізацыя масавых беспарадкаў) і 342 (арганізацыя групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак). Таксама ў дачыненні да іх распачата крымінальная справа паводле ч. 3 арт. 130 Крымінальнага кодэкса – абвінавачваюць у здзяйсненні наўмысных дзеянняў, накіраваных на распальванне сацыяльнай варожасці па прыкмеце прафесійнай прыналежнасці. Сцяпан Пуціла і Раман Пратасевіч былі абвешчаны ў міждзяржаўны вышук.

## Іншыя крымінальныя справы ў поствыбарчы перыяд

**23 верасня** галоўны рэдактар штотыднёвіка «Наша ніва» **Ягор Марціновіч** быў арыштаваны ў якасці падазраванага па справе аб паклёпе (арт. 188 Крымінальнага кодэкса) за публікацыю, у якой згадваўся намеснік міністра ўнутраных спраў Аляксандр Барсукоў. У ім дыджэй Улад Сакалоўскі сцвярджаў, што ў той час, калі ён знаходзіўся ў ізалятары на Акрэсціна, яго збіваў чалавек, падобны на Барсукова. У кватэры Марціновіча адбыўсяператрус. Журналіста пратрымалі ў СІЗА тры дні.

**Шэсць журналістаў** (улічваючы Кацярыну Андрэеву і Дар'ю Бахвалаву) былі затрыманыя падчас асвятлення вулічных акцый пратэсту ў Мінску **ў лістападзе 2020 года**. Спачатку ўсе яны былі пакараныя адміністрацыйнымі арыштамі або штрафамі, а потым сталі падазраванымі па крымінальнай справе (або справах) паводле артыкула 342 Крымінальнага кодэкса (Арганізацыя і падрыхтоўка мерапрыемстваў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх).

**1 лістапада** былі збітыя і затрыманыя журналіст і аператар тэлеканала «Белсат» **Дзмітрый Солтан (Буянаў)** і фатограф газеты «Новы час» **Дзмітрый Дзмітрыеў**. Яны адбылі 10 сутак арышту за нібыта ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і непадпарадкаванні міліцыі (арт. 23.34 і арт. 23.4 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях). Відэакамера і тэлефон Буянава былі канфіскаваны. 13 лістапада 2020 года ў кватэры Дзмітрыева адбыўсяператрус у межах расследавання крымінальнай справы.

**1 лістапада** таксама былі затрыманыя рэпарцёры тэлеканала «Белсат» **Дзмітрый Краўчук і Арцём Багаслаўскі.** Іх аштрафавалі паводле арт. 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, пасля чаго былі ўзбуджаныя крымінальныя справы.

**22 снежня 2020 года Сяргей Гардзіевіч**, карэспандэнт незалежнага рэгіянальнага навінавага сайта 1reg.by у Драгічыне, быў арыштаваны на 72 гадзіны ў якасці падазраванага па крымінальнай справе паводле арт. 368 КК (Абраза прэзідэнта Рэспублікі Беларусь) за быццам ягоны рэпост паведамлення ў мясцовым чаце Viber. Яго затрымалі супрацоўнікі АМАПу па дарозе ў Брэст. Пазней у гэты ж дзень у доме журналіста правяліператрус: забралі сістэмны блок камп'ютара, сім-карты, тэлефоны, у тым ліку пашкоджаныя. Таксама былі забраныя аўтамабілі Гардзіевіча і яго жонкі.

**25 снежня** Гардзіевіч быў змешчаны пад **хатні арышт**. Яму забаронена выходзіць з дому больш чым на гадзіну, адпраўляць карэспандэнцыю, карыстацца тэлефонам і інтэрнэтам.

**31 снежня** журналісту прад'явілі абвінавачанні ў абразе прэзідэнта.

**3 лютага** ў доме Сяргея Гардзіевіча адбыўся яшчэ адзінператрус, але нічога не было вынята.

## Іншыя значныя судовыя справы

**17 студзеня** суд Бабруйскага раёна і г. Бабруйска пастанавіў, што ў выніку публікацыі матэрыяла пра ход датэрміновага галасавання інтэрнэт-рэсурсам **«Бобруйский курьер»** былі прычыненыя маральныя пакуты сакратарцы выбарчага ўчастка Юліі Фурман. Суд абавязаў «Бобруйский курьер» апублікаваць афіцыйнае абвяржэнне слоў «супрацоўнікі зафіксавалі парушэнне», выплаціць салідарна з аўтарам **Яўгенам Глаголевым-Васьковічам** 500 рублёў кампенсацыі маральнай шкоды і яшчэ 153 рублі – за судовыя выдаткі (агулам 653 рублі).

Пазоў на «Бобруйский курьер» **падала былая сакратарка выбарчай камісіі** ўчастку № 22 Бабруйска-Ленінскай выбарчай акругі № 78 **Юлія Фурман**, якая сцвярджала, што анлайн-рэсурс схлусіў пра

падзеі, якія адбываліся на ўчастку 14 лістапада, падчас датэрміновага галасавання ў ходзе выбараў у Палату прадстаўнікоў, і апісваліся ў матэрыяле «Сакратар участковай камісіі зачынілася ад назіральнікаў са скрыняй для галасавання ў сваім кабінеце». У матэрыяле распавядалася, што ў адзін з дзён папярэдняга галасавання на 22-м участку ў Бабруйску сакратарка падчас перапынку засталася са скрыняй у кабінеце, у які зачыніла дзверы. У выніку назіральнікі не маглі бачыць, што адбывалася ў кабінеце, а гэта магло быць выкарыстана для фальсіфікацыі. Пазоўніца не аспрэчвала, што яна зачынялася ў кабінеце. Прычынай яе незадавальнення сталі словы ў матэрыяле пра тое, што нібыта была выкліканая міліцыя, якая зафіксавала яе, сакратаркі, правапарушэнне.

**22 студзеня** было дасягнута міравое пагадненне ў справе па іску аб абароне дзелавой рэпутацыі маладзечанскага завода парашковай металургіі супраць **«Рэгіянальнай газеты»**, пададзеным у Эканамічны суд Мінскай вобласці. У кастрычніку 2019 года на сайце «РГ» быў размешчаны здымак, дасланы чытачом. На ім аўтар зафіксаваў прывязаны да вяроўкі кавалак мыла ў адной з прыбіральняў прадпрыемства. Загаловак да публікацыі быў «Каб не скралі. У прыбіральні на маладзечанскім заводзе мыла прывязалі на вяроўку». У іску патрабавалася абвергнуць апублікаваную інфармацыю, абавязаць рэдакцыю падаць інфармацыю аб асобе, якая дала звесткі выданню, для прыцягнення яе да адказнасці і спагнаць з адказчыка дзяржпошліну. У выніку заключэння міравога пагаднення ісцец адмовіўся ад сваіх патрабаванняў у поўным аб'ёме і пагадзіўся вярнуць выданню палавіну выдаткаў на аплату паслуг адваката.

**17 сакавіка** Судовая калегія Вярхоўнага суда па эканамічных справах у складзе суддзяў Андрэя Плотнікава, Віктара Курыла і Таццяны Мікаленка, разгледзеўшы скаргу **ГА «БАЖ»**, пастанавіла пакінуць рашэнні Эканамічнага суда Мінска і яго апеляцыйнай інстанцыі без зменаў.

**У кастрычніку 2019** года ГА «БАЖ» звярнуўся да старшыні Мінскага гарадскога суда Паўла Каршуновіча з прапановай змяніць інструкцыю аб парадку наведвання будынкаў гарадскога і раённых судоў Мінска, асобныя палажэнні якой, на думку арганізацыі, парушаюць правы журналістаў. У прыватнасці, паводле інструкцыі допуск прадстаўнікоў СМІ, а таксама пранос імі ў будынак суда прафесійнай апаратуры магчымы «па вусным альбо пісьмовым узгадненні з асобай, адказнай за ўзаемадзеянне са СМІ». На думку ГА «БАЖ», такі парадак «з'яўляецца дыскрымінацыйным і перашкаджае ажыццяўленню журналістамі іх прафесійных абавязкаў». У адказе на зварот Каршуновіч паведаміў, што «падстаў для карэкціроўкі палажэнняў інструкцыі не маецца». ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» паспрабавала аспрэчыць правамернасць згаданай інструкцыі ў судзе. Аднак **9 студзеня** Эканамічны суд Мінска адмовіўся прыняць заяву ГА «БАЖ», аргументаваўшы гэта тым, што арганізацыя не можа аспрэчыць дакумент судовага органа. Да аналагічнай высновы **31 студзеня** прыйшла і апеляцыйная інстанцыя таго ж суда.

**13 траўня** суд Лунінецкага раёна **аштрафаваў** рэдакцыю сайта «Медыя-Палессе» на 120 базавых велічынь (каля 1250 еўра) паводле ч. 3-1 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за «распаўсюд сродкам масавай інфармацыі інфармацыі, распаўсюд якой забаронены ў сродках масавай інфармацыі». Нагодай для гэтага стала памылковая публікацыя пра смерць пацыента ад COVID-19 у пінскай бальніцы. Рэдакцыя прызнала памылку і выбачылася, аднак участковы інспектар Лунінецкага РАУС распачаў адміністрацыйную вытворчасць па гэтым выпадку ў сувязі з тым, што інфармацыя, апублікаваная на сайце, нанесла шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь і «*паспрыяла нагнятанню сацыяльнай напружанасці ў грамадстве, стварэнню панічных настрояў, вядзе да масавага дэзінфармавання насельніцтва*».

Паводле звестак ГА «БАЖ» гэта быў першы выпадак выкарыстання дадзенай прававой нормы, якая была ўключаная ў КаАП у 2018 годзе.

**17 лістапада** суддзя суда Лунінецкага раёна Міхаіл Дзенісовіч вынес пастанову, згодна з якой ТАА «МП компані», якому належыць сеткавае СМІ «Медыя-Палессе», парушыла ч. 3-1 арт. 22.9 КаАП

Рэспубліцы Беларусь і мусіць выплаціць 250 базавых велічынь штрафу (6750 рублёў) Іне Кухаравай, настаўніцы Мікашэвіцкай СШ № 2, дзе вучылася экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта Святлана Ціханоўская. У публікацыі «Это она за мужем, как за декабристом пошла. Не только характер, но и любовь свою проявила» было памылкова пазначана, што Іна Кухарава вучыла Святлану Ціханоўскую, што на самой справе было не так; выказванне, якое выкарыстоўвалася ў загалоўку і ў тэксце, належыла іншаму настаўніку. Аўтар тэкста прызнаў памылку, рэдакцыя апублікавала абвяржэнне і прынесла прабачэнні Кухаравай. Аднак міліцыя распачала адміністрацыйны працэс у сувязі з «пагрозай нацыянальнай бяспецы краіны» ў дачыненні да «МП компані», уладальніка сеткавага СМІ «Медыя-Палессе». Суд некалькі разоў вяртаў адміністрацыйную справу на дапрацоўку ў міліцыю, а 8 верасня вынес пастанову аб тым, што яе неабходна спыніць за адсутнасцю складу правапарушэння.

Міліцыя абскардзіла гэтую пастанову ў Брэсцкі абласны суд, які пастанавіў накіраваць справу на новы разгляд.

**29 снежня** суд Маскоўскага раёна Мінска прысудзіў амапаўцу Андрэю Бекішу маральную кампенсацыю ў памеры 1500 рублёў у сувязі з публікацыяй артыкула ў **«Нашай Ніве».** У ліпені 2020 года блогер Сцяпан Пуціла апублікаваў у сваім тэлеграм-канале відэа таго, як апрануты ў цывільнае Бекіш падскоквае да аднаго з затрыманых пратэстоўцаў са спіны і некалькі разоў б'е яго. Праз некалькі дзён «Наша Ніва» апублікавала тэкст з расповедамі аднакласнікаў амапаўца пра тое, якім ён быў у дзяцінстве. У Бекіша былі прэтэнзіі да некалькіх выказванняў аўтара, напрыклад, пра тое, што ён «з вялікім імпэтам збіваў пратэстоўцаў». Апроч таго, ён настойваў, што яго аднакласнікі не казалі наступнае: «якім жа трэба быць баязліўцам, каб такое рабіць...», «у яго здараліся нейкія заскокі», «павінен жа я ведаць, ці падаваць яму руку», «памятаю, як на ўроку фізкультуры я збірала мячыкі пасля ўрока, а ён падышоў да мяне і проста ўдарыў пад дых. У мяне аж у вачах пацямнела».

## Затрыманні журналістаў, адміністрацыйны пераслед

Найбольш масавым тыпам парушэння правоў журналістаў былі затрыманні. Яны распачаліся яшчэ да дня прэзідэнцкіх выбараў падчас асвятлення мірных пратэстаў, але абсалютная большасць іх адбылася ў паслявыбарчы перыяд, калі журналісты асвятлялі акцыі пратэсту.

ГА «БАЖ» зафіксавала 481 затрыманне за год, што больш як у два разы, чым за папярэднія шэсць гадоў, разам узятыя. Папярэднім «пікавым» годам быў паслявыбарчы 2011 год, калі журналістаў затрымлівалі 167 разоў. Амаль столькі ж журналістаў было затрымана толькі ў жніўні 2020 года – 160 асоб.

**19 чэрвеня** ў Беларусі ў розных гарадах было затрымана 13 журналістаў, у тым ліку з «Радыё Свабода», Reuters, «Еўрапейскага радыё для Беларусі», тэлеканала «Белсат», Tut.by, Onliner.by, Bobr.by.

Шмат у якіх выпадках міліцыя мэтанакіравана пераследавала журналістаў. Гэтак, **27 жніўня** ў Мінску і Брэсце супрацоўнікі сілавых структур затрымалі не менш за **47 журналістаў**, у тым ліку замежных СМІ, і прывезлі іх у раённыя аддзяленні міліцыі. Міліцыянты знішчалі матэрыялы здымак, пагражаючы пашкоджаннем або знішчэннем прафесійнай тэхнікі журналістаў.

Адміністрацыйны арышт тэрмінам ад 3 да 15 сутак у якасці пакарання ў дачыненні да журналістаў прызначаўся судамі ў 2020 годзе 97 разоў, галоўным чынам у якасці адміністрацыйнага спагнання за быццам удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве (арт. 23.34 КаАП) альбо непадпарадкаванне патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі (арт. 23.4 КаАП). Часта судовыя пастановы выносіліся на падставе сведчанняў супрацоўнікаў міліцыі, дадзеныя пра якіх часта былі

засакрэчаныя, а твары схаваныя. Журналістка **Алена Доўнар** правяла за кратамі 30 дзён: пасля сканчэння тэрміну першага арышту на 15 сутак яе пакаралі яшчэ адным адміністрацыйным арыштам на 15 сутак.

**1 верасня** міліцыя затрымала шасцярых рэпарцёраў з **TUT.by, БелаПАН і газеты «Комсомольская правда в Беларуси»**. Журналісты выконвалі свае прафесійныя абавязкі, былі ў камізэльках з надпісам «Прэса», з бэйджамі і службовымі пасведчаннямі, прадстаўлялі зарэгістраваныя ў краіне СМІ – і тым не менш былі абвінавачаныя ва ўдзеле ў несанкцыянаванай масавай акцыі і змешчаныя пад варту, дзе правялі ноч да суда. На працягу наступнага дня суды двойчы вярталі пратаколы ў дачыненні да журналістаў на дапрацоўку ў міліцыю, але затрыманыя рэпарцёры на волю так і не выйшлі. Іх адвезлі ў ізалятар часовага ўтрымання, а пасля суд усё ж прызнаў іх вінаватымі і пакараў трыма суткамі арышту, якія яны на той час ужо адбылі.

Цягам года было зафіксавана не менш за 36 штрафаў журналістам паводле арт. 22.9 КаАП (незаконны выраб і/альбо распаўсюд прадукцыі СМІ) за супрацоўніцтва з тэлеканалам «Белсат».

## Фізічныя замахі

На працягу 2020 года ў 62 выпадках журналісты адзначалі факты прымянення гвалту ў дачыненні да іх падчас выканання прафесійных абавязкаў, а таксама пры затрыманні і пасля затрымання (уключаючы выпадкі катаванняў у зняволенні). Гэта тычылася як беларускіх, так і замежных журналістаў, як мужчын, так і жанчын. Геаграфія затрыманняў ахоплівала практычна ўсе рэгіёны Беларусі. Падчас асвятлення поствыбарчых пратэстаў прыкладна кожны трэці затрыманы журналіст сутыкнуўся з гвалтам пры затрыманні.

**9 жніўня** ў Мінску быў затрыманы падчас працы журналіст «Белсата» **Станіслаў Івашкевіч**. У ЦІП ГУУС Мінгарвыканкама («Акрэсціна») ён падвергнуўся збіццю гумовымі дубінкамі ў калідоры і ва ўнутраным двары. Пасля гэтага яго ўтрымлівалі ў камеры памерам каля 4 на 6 метраў, разлічанай на тры чалавекі, дзе знаходзілася адначасова да 13 чалавек. За двое сутак для харчавання затрыманым далі ўсяго адзін бохан хлеба на 11 чалавек.

**10 жніўня** ў Мінску быў затрыманы ва ўласным аўтамабілі галоўны рэдактар «Нашай Нівы» **Ягор Марціновіч**. Па дарозе ў РУУС Заводскага раёна Мінска і ў дворыку РУУС ён быў неаднаразова збіты. Першыя 12 гадзін пасля затрымання журналіста не кармілі. Калі яго змясцілі ў следчы ізалятар ў Жодзіне, у камеры, разлічанай на 12 месцаў, знаходзілася 28 чалавек.

**10 жніўня Яўгена Нікалаевіча**, карэспандэнта «Медыя-Палесся», які быў пазначаны журналісцкім бэйджам, затрымалі ў Пінску падчас выканання рэдакцыйнага задання. Яго збівалі ў будынку гарвыканкама: два разы ўдарылі галавой аб падлогу, потым білі рукамі. Пазней у аддзяленні міліцыі ён праляжаў тварам у падлогу, з кайданкамі на руках каля трох гадзін. У ноч з 16 на 17 жніўня яго выпусцілі на свабоду.

**10 жніўня** ў Мінску быў затрыманы і збіты тэхнічны супрацоўнік TUT.BY **Мікіта Быстрык**. Ён распавядаў: «Калі міліцыя даведалася, што я на TUT.BY працую, мне за гэта яшчэ дадаткова «ўпісалі» са словамі «гэтыя м…зі любяць пра нас дрэннае пісаць». Чалавечага стаўлення за ўвесь гэты час увогуле не было. Ставіліся як да жывёл: і фізічна, і маральна, і словамі». У выніку дзеянняў супрацоўнікаў міліцыі ў Быстрыка былі зламаныя рэбры, разбітая галава, на целе засталіся шматлікія сляды ад удараў. На працягу 11 жніўня медыцынская дапамога яму не аказвалася. Увесь гэты час затрыманых не кармілі, толькі давалі піць і рэдка выводзілі ў прыбіральню. Ён змог паесці толькі раніцай 12 жніўня ў лякарні.

Увечары **11 жніўня Руслан Кулевіч**, журналіст гродзенскага сайта Hrodna.Life, быў затрыманы ў цэнтры Гродна, куды прыехаў разам з жонкай на роварах, каб асвятляць вулічныя пратэсты. Ён быў у камізэльцы з надпісам «Прэса». Калі яго, разам з іншымі затрыманымі, прывезлі ў ІЧУ, то прапусцілі праз так званы «калідор» – два шэрагі супрацоўнікаў міліцыі, якія стараліся кожнага нечым ударыць (рукой альбо гумовай дубінкай). Кулевіч не мог самастойна ісці і яго валаклі па асфальце. Некаторыя супрацоўнікі міліцыі смяяліся і гаварылі: «Рэпарцёр нарэшце папаўся. Напісаўся, нафоткаўся. Больш ты не будзеш гэтага рабіць». Затрыманых пакармілі толькі на трэці дзень, увечары таго ж дня вызвалілі. Ноччу пасля вызвалення Кулевіч паехаў у шпіталь, дзе даведаўся, што ў яго зламаныя абедзьве рукі, маецца страсенне мозгу, раны на нагах і на целе.

У Мінску былі зафіксаваныя як мінімум тры выпадкі прымянення агнястрэльнай зброі ў дачыненні да журналістак падчас іх працы на акцыях пратэсту. У выніку журналісткі атрымалі раненні, у тым ліку такія, што запатрабавалі працяглага лячэння ў лякарні.

**9 жніўня** карэспандэнтка нідэрландскага медыя nrc.nl Эмілі ван Оўтэрэн (Emilie van Outeren) пацярпела падчас асвятлення акцыяў пратэсту – яна атрымала раненне невядомым снарадам у сцягно.

**10 жніўня** журналістка «Нашай Нівы» Наталля Лубнеўская была сур'ёзна параненая гумовай куляй, калі адзін з супрацоўнікаў праваахоўных органаў спыніўся ў 10 метрах ад групы журналістаў у сініх камізэльках «Прэса» і стрэліў журналістцы ў нагу. Лячэнне заняло больш за месяц.

**11 жніўня** журналістка Ірына Арахоўская атрымала раненне гумовай куляй падчас працы на акцыі пртэсту ў раёне станцыі метро Пушкінская.

## Вобшукі, выняцце, пашкоджанне, канфіскацыя тэхнікі і носьбітаў інфармацыі

Затрыманні журналістаў часта суправаджаліся адбіраннем і пашкоджаннем прафесійнай тэхнікі (фота- і відэакамер, мабільных тэлефонаў, флэш-карт).

Адбыўся шэраг вобшукаў ва ўсіх журналістаў і блогераў, якія прыцягваліся да крымінальнай адказнасці (гл. «Крымінальныя справы»). У некалькіх рэдакцыях незалежных СМІ прайшліператрусы, якія праваахоўнікі абгрунтоўвалі расследаваннем адміністрацыйных ці крымінальных спраў у дачыненні да супрацоўнікаў рэдакцый.

**26 сакавіка** супрацоўнікі Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю правялі ператрус у рэдакцыі анлайн-выдання **«Ежедневник»** у сувязі з расследаваннем крымінальнай справы галоўнага рэдактара Сяргея Сацука і забралі з рэдакцыі дакументы.

**5 кастрычніка** адбыўся вобшук у рэдакцыі інфармацыйнага сайта **«Сильные Новости»** (Гомель) у сувязі з адміністрацыйнай справай галоўнага рэдактара Ганны Якштас паводле арт. 23.34 КаАП за быццам бы ўдзел у акцыі пратэсту 27 верасня, якую яна асвятляла як журналістка. З офіса рэдакцыі забралі два ноўтбукі, некалькі тэлефонаў, у тым ліку асабістыя, некалькі флэш-картак і нататнікаў.

**9 лістапада** следчыя ў Слоніме прыйшлі з ператрусам да заснавальніка недзяржаўнай **«Газеты Слонімскай» Ганны Валадашчук**, а затым і ў рэдакцыю выдання. Ганна Валадашчук называлася ў пастанове сведкай у крымінальнай справе за абразу і паклёп у тэлеграм-канале ў дачыненні да супрацоўніка міліцыі і яго жонкі. У яе доме міліцыянты забралі два камп'ютары, sim-карты, флэш-

накапляльнікі; у памяшканні рэдакцыі – камп'ютары журналістаў, бухгалтэрыі і рэкламнага аддзела. У выніку была паралізаваная эканамічная і выдавецкая дзейнасць рэдакцыі.

**29 снежня** ў Ганцавічах міліцыя правялаператрусы ў рэдакцыі рэгіянальнай газеты **«Ганцавіцкі час»**, а таксама ў кватэрах заснавальніка газеты і сайта 1reg.by **Пятра Гузаеўскага** і галоўнага рэдактара сайта 1reg.by **Паўла Дайліда.** Усе яны ажыццяўляліся ў межах расследавання справы *ў дачыненні да Сяргея Гардзіевіча, карэспандэнта ў Драгічыне, з ініцыятывы драгічынскага следчага (гл. падрабязней «Крымінальны пераслед»). З рэдакцыі нічога не было забрана. У Пятра Гузаеўскага з дома забралі ноўтбук, у Паўла Дайліда – мабільны тэлефон.*

## Папярэджанні і патрабаванні з боку дзяржаўных органаў

**16 сакавіка** Міністэрства інфармацыі вынесла патрабаванне ўладальніку інтэрнэт-рэсурса **vitebsk.biz,** на якім 13 сакавіка была змешчана публікацыя «У Мінску памёр генеральны дырэктар СТАА «Марка» Мікалай Васільевіч Мартынаў», якая меркавана ўтрымлівала недакладную інфармацыю. Мініінфармацыі спасылалася на дадзеныя Міністэрства аховы здароўя, згодна з якімі ў Беларусі не было зафіксавана смерцяў ад захворванняў, выкліканых COVID-19.

**6 красавіка** Міністэрства інфармацыі вынесла пісьмовае папярэджанне аб парушэнні патрабаванняў артыкулаў 4 і 49 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сродках масавай інфармацыі» ўладальніку інфармацыйнага сайта «Медыя-Палессе» (Media-polesye.by) у сувязі з публікацыяй, у якой утрымлівалася *«недакладная інфармацыя пра смерць пацыента, распаўсюд якой можа нанесці шкоду дзяржаўным і грамадскім інтарэсам»*. Рэдакцыя прызнала памылку, аднак адзначыла, што інфармацыя была выпраўленая на працягу 15 хвілін пасля яе з'яўлення на сайце, а таксама тое, што пацыент і яго сям'я прэтэнзій не выказвалі. Аднак праз некалькі дзён участковы інспектар Лунінецкага РАУС узбудзіў адміністрацыйную вытворчасць па гэтым выпадку ў сувязі з тым, што інфармацыя, апублікаваная на сайце, нанесла шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь і «*паспрыяла нагнятанню сацыяльнай напружанасці ў грамадстве, стварэнню панічных настрояў, вядзе да масавага дэзінфармавання насельніцтва*» (гл. падрабязней «Значныя судовыя справы»).

**20 красавіка** рэдакцыя газеты **«Наша Ніва»** атрымала ліст з Міністэрства інфармацыі, у якім утрымлівалася рэакцыя на артыкул (апублікаваны 16 красавіка) пра сітуацыю ў доме састарэлых у Бешанковічах. У публікацыі ішла размова пра тое, што ў яго жыхароў былі выяўлены COVID-19. Але Міністэрства працы і сацыяльнай абароны паведаміла ў Міністэрства інфармацыі, што па выніках тэстаў сярод жыхароў і супрацоўнікаў аддзялення кругласутачнага знаходжання для пажылых грамадзян і інвалідаў каранавіруснай інфекцыі не выяўлена. У адпаведнасці з патрабаваннямі закона «Аб сродках масавай інфармацыі» рэдакцыя «Нашай Нівы» скарэктавала змест артыкула.

**14 мая Алена Янушкоўская**, стваральніца відэаблогу «Настоящая Беларусь» і некалькіх груп у сацыяльных сетках з такой жа назвай, якая жыве ў вёсцы пад Віцебскам, была дастаўлена міліцыяй у пракуратуру Віцебскага раёна. Там памочнік пракурора Аляксей Багдасаран сказаў ёй, што ў пракуратуры ёсць прэтэнзіі да відэароліка пра Полацкі райвыканкам пад назвай «Коронавирус-режим просит подаяния у белорусов», у якім нібыта ўтрымліваліся абразлівыя выказванні на адрас чыноўнікаў, а таксама папярэдзіў пра недапушчальнасць заклікаў на несанкцыянаваныя мітынгі.

**15 ліпеня** рэдакцыя інфармацыйнага сайта **Nashaniva.by** атрымала ліст Міністэрства інфармацыі з патрабаваннем выдаліць артыкул пра перапіску мінчанкі Наталлі Мухамад з Адміністрацыяй прэзідэнта з-за наяўнасці ў ім недакладнай інфармацыі (у адпаведнасці з законам «Аб СМІ» матэрыял быў выдалены на працягу 24 гадзін). Ён быў прысвечаны публікацыі адказу на нібыта скаргу, дасланую ў Адміністрацыю прэзідэнта жанчынай, якая тлумачыла, што адпраўніца – яе сяброўка,

незадаволеная несправядлівым судовым рашэннем. Сама адпраўніца спачатку адмовілася размаўляць з карэспандэнтам «Нашай Нівы». Праз некалькі дзён адпраўніца звязалася з рэдакцыяй і заявіла, што насамрэч адпраўляла ў Адміністрацыю прэзідэнта кампліменты Аляксандру Лукашэнку. У адпаведнасці з законам «Аб зваротах грамадзян» на лісты, у якіх няма ніякіх заўваг, а толькі падзяка, адказваць не трэба. Тым не менш Наталля Мухамад атрымала афіцыйны адказ. *«Размяшчэнне такой недакладнай інфармацыі прыводзіць да ўшчамлення канстытуцыйнага права грамадзян на атрыманне, захоўванне і распаўсюд поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі, спрыяе штучнаму нагнятанню напружанасці ў грамадстве, а таксама падрывае аўтарытэт органаў дзяржаўнага кіравання, спрыяе фармаванню негатыўнага меркавання аб прыманых мерах пры разглядзе зваротаў грамадзян і, як следства, наносіць шкоду дзяржаўным і грамадскім інтарэсам»*, – гаварылася ў лісце Міністэрства інфармацыі.

**20 ліпеня інфармацыйны сайт «Бобруйский курьер»** атрымаў з Бабруйскага гарвыканкама пісьмовае патрабаванне выдаліць з сайта пяць відэаролікаў пра прэзідэнцкую выбарчую кампанію пад пагрозай адміністрацыйнага пераследу. Дакумент быў падпісаны начальніцай аддзела ідэалагічнай работы і па справах моладзі Таццянай Гарбачовай. У матэрыялах, выдалення якіх патрабаваў Бабруйскі гарвыканкам, утрымліваліся экспрэс-інтэрв'ю з гараджанамі па пытаннях, датычных выбараў і кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Гэтыя матэрыялы аддзел ідэалагічнай працы, відавочна, аднёс да апытанняў грамадскай думкі, бо абгрунтаваў сваё патрабаванне наступным: «*Правядзенне даследаванняў і апублікаванне вынікаў апытанняў грамадскага меркавання, датычных грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне, рэспубліканскіх рэферэндумаў, выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, чальцоў Савету Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, магчыма толькі пры атрыманні акрэдытацыі ў Камісіі па апытаннях грамадскага меркавання пры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі».* За правядзенне такіх апытанняў без гэтай акрэдытацыі прадугледжана адказнасць паводле арт. 9.28 КаАП Рэспублікі Беларусь (незаконнае правядзенне апытанняў грамадскай думкі).

**7 жніўня** Міністэрства інфармацыі вынесла пісьмовае папярэджанне парталу **TUT.BY** за распаўсюд «недакладнай інфармацыі, якая можа нанесці шкоду дзяржаўным альбо грамадскім інтарэсам». Яно тычылася публікацыі ад 5 жніўня пра тое, якія парушэнні зафіксавалі назіральнікі, якім не дазволілі знаходзіцца непасрэдна на выбарчых участках, у тэксце быў таксама каментар ЦВК. Назіральнік Аляксандр Якубоўскі, акрэдытаваны на 19-ы ўчастак у пасёлку Смілавічы Чэрвеньскага раёна, распавядаў пра свае падлікі (прыйшоў 21 выбаршчык супраць указаных у пратаколе 164), адзначыўшы, што на ўчастку ён знаходзіўся з моманту апячатвання скрыні і да канца дня. Мінінфарм палічыў, што інфармацыя пра час знаходжання назіральніка на ўчастку не адпавядае рэчаіснасці.

**8 жніўня** рэдакцыя інфармацыйнага сайта **NN.by** атрымала ліст з Міністэрства інфармацыі, у якім патрабавалася выдаліць на працягу дзвюх гадзін артыкул пра сітуацыю на выбарчым участку № 6 у Бараўлянах. Незалежны назіральнік даслаў блогеру NEXTA свае падлікі колькасці выбарцаў, што прагаласавалі датэрмінова, а таксама фотаздымак урны (назіральнік убачыў у ёй стос укінутых бюлетэняў). Міністэрства інфармацыі паведамляла, што падлікі назіральніка і звесткі пра ўкід бюлетэняў не адпавядаюць рэчаіснасці. *«Публікацыя падобнай інфармацыі вядзе да масавага дэзынфармавання насельніцтва і парушае канстытуцыйнае права на атрыманне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі»*, – гаварылася ў лісце.

**29 жніўня** заснавальніку інфармацыйнага сайта orsha.eu **Ігару Казмерчаку** абвясцілі афіцыйнае папярэджанне пракуратуры пра недапушчальнасць арганізацыі несанкцыянаваных масавых мерапрыемстваў у сувязі з публікацыяй артыкула «Протесты в Орше. Что дальше?» На думку пракуратуры, у тэксце меліся заклікі да ўдзелу ў акцыях пратэсту, і заснавальнік сайта можа быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці паводле арт. 23.34 КаАП, калі падобныя артыкулы будуць з'яўляцца на сайце.

**7 верасня** Міністэрства інфармацыі вынесла пісьмовае папярэджанне парталу **TUT.BY** з фармулёўкай «за распаўсюд недакладнай інфармацыі, якая можа нанесці шкоду дзяржаўным або грамадскім інтарэсам». 25 жніўня на старонцы FINANCE.TUT.BY быў апублікаваны артыкул пад назвай «Камітэт дзяржкантролю зможа выплаціць буйныя прэміі работнікам, якія праявяць сябе ў рэзанансных справах». У ім аўтарам была дапушчаная ненаўмысная памылка (якая пазней была выпраўленая), а менавіта няправільна былі пазначаны памеры прэмій, якімі кіраўніцтва Камітэта дзяржкантролю і органаў фінансавых расследаванняў змогуць фінансава заахвочваць сваіх работнікаў, што прымалі «актыўны ўдзел у выяўленні, выкрыцці, абясшкоджванні і затрыманні асоб, якія ўчынілі найбольш небяспечныя, маючыя вялікі грамадскі рэзананс злачынствы».

**9 верасня** Міністэрства інфармацыі вынесла чарговае папярэджанне ТАА «ТУТ БАЙ МЕДЫЯ» – за артыкул ««К редактору TUT.BY пришли силовики. На ее дочь завели уголовное дело о массовых беспорядках». У лісце Мінінфарма паведамлялася, што ў дачыненні да Валерыі Уласік крымінальная справа не распачыналася, аператрус праводзіўся ў мэтах праверкі інфармацыі аб «датычнасці яе да арганізацыі масавых беспарадкаў, якія адбываюцца на тэрыторыі горада Мінска». **12 лістапада** Вярхоўны суд, разгледзеўшы пазоў TUT.by аб адмене папярэджанняў Міністэрства інфармацыі, прызнаў гэтае папярэджанне несапраўдным.

**15 верасня** Міністэрства інфармацыі вынесла чацвёртае цягам года папярэджанне **ТАА «ТУТ БАЙ МЕДЫЯ»** за публікацыю, у якой гаварылася, што мытня папрасіла выдавецтва патлумачыць, ці няма ў кнізе пра Гары Потэра заклікаў да звяржэння дзеючай улады. Мытня гэта абвергла, і партал апублікаваў адпаведнае абвяржэнне. Такі запыт у выдавецтва сапраўды паступаў, але не ад мытні, а ад транспартнай кампаніі.

**23 снежня** рэдактар «Брестской газеты» **Віктар Марчук** быў выкліканы ў пракуратуру для дачы тлумачэнняў адносна ўдзелу ў запісе відэароліка «Зварот грамадзян Брэста, занепакоеных эскалацыяй гвалту ў Беларусі». Там ён быў афіцыйна папярэджаны пра адказнасць за распаўсюд непраўдзівай інфармацыі. На прапанову падпісацца пад папярэджаннем Віктар Марчук зрабіў запіс, што з афіцыйным папярэджаннем не згодны.

**28 снежня** рэдактара брэсцкага сайта brestnote.by **Наталлю Пармон** выклікалі ў гарадскую пракуратуру. Нагодай стаў удзел журналісткі ў запісе відэазвароту жыхароў Брэста, якія былі занепакоеныя эскалацыяй гвалту ў Беларусі. Ёй зачыталі тэкст вуснага папярэждання, у якім ішла гаворка аб адказнасці за распаўсюд несапраўдных звестак. Пры гэтым сам тэкст папярэджання журналістка не атрымала, але ёй прапанавалі падпісаць дакумент. У адказ яна напісала, што кіруецца асноўным законам у сваім жыцці – Бібліяй, таму ілжывыя звесткі не распаўсюджвае.

## Абмежаванні свабоды дзейнасці ў Інтэрнэце

### Блакаванне сайтаў і Інтэрнэта

Шэраг перашкод для распаўсюду інфармацыі ў інтэрнэце ўзнік яшчэ да дня выбараў. **24 чэрвеня** практычна цягам усяго дня не было доступу да сайта **«Беларускага Радыё Рацыя»** з-за DDoS-атакі. Супрацоўнікі таксама не мелі доступу і да яго сістэмы адміністравання. **25 чэрвеня** уладальніца сайта «**Белорусский *партизан***» Святлана Калінкіна звярнулася ў Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі з прычыны DDoS-атакі на сайт на працягу некалькіх дзён. Спачатку яго атакавалі з замежных IP-адрасоў, а пазней – з беларускіх. Каб спыніць напад, «Белорусский *партизан*» вымушаны быў змяніць IP-адрас. **8 жніўня** быў заблакаваны па рашэнні Міністэрства інфармацыі сайт Агенцтва фінансавых навін afn.by.

Калі раней у Беларусі падчас значных палітычных падзей аказваліся недаступнымі асобныя незалежныя інфармацыйныя сайты, то гэтым разам у паслявыбарчы перыяд адбывалася масіраванае дзяржаўнае ўмяшальніцтва ў дзейнасць інтэрнэту, якое было накіраванае на абмежаванне доступу да інфармацыі.

З **9 па 12 жніўня** ў Беларусі быў практычна заблакаваны інтэрнэт. Праблемы з доступам працягваліся да канца кастрычніка: кожную нядзелю падчас масавых акцый аператары мабільнай сувязі ў Беларусі прыпынялі на некалькі гадзін аказанне паслуг па выкарыстанні мабільнага інтэрнэту «паводле патрабавання ўпаўнаважаных дзяржаўных органаў».

**Пасля выбараў** большасць сайтаў, якія незалежна асвятлялі сацыяльна-палітычнае становішча ў краіне, былі заблакаваныя ў абыход прававой працэдуры. Гэтак, **сайт ГА «БАЖ»** быў недасяжны для карыстальнікаў у Беларусі з 9 па 27 жніўня, нягледзячы на адсутнасць афіцыйнага рашэння пра абмежаванне доступу да яго.

**21 і 28 жніўня** сталася вядома, што Міністэрства інфармацыі прыняло рашэнні пра абмежаванне доступу да больш як 70 інтэрнэт-рэсурсаў, якія *«ўтрымлівалі заклікі і выкарыстоўваліся для каардынацыі дзейнасці па арганізацыі масавага непадпарадкавання прадстаўнікам улады»*, а таксама за *«шэраг артыкулаў, якія адмоўна характарызавалі становішча ў Беларусі пасля заканчэння электаральнай кампаніі і дыскрэдытавалі дзейнасць дзяржаўных органаў, у тым ліку праваахоўных органаў»*.

**20 кастрычніка** суд Цэнтральнага раёна г. Мінска вынес рашэнне пра прызнанне папулярнага беларускага Telegram-канала NEXTA-Live і лагатыпа NEXTA экстэмісцкімі матэрыяламі. NEXTA – незалежны навінавы рэсурс, аўдыторыя якога значна ўзрасла пасля прэзідэнцкіх выбараў, калі ён распаўсюджваў матэрыялы і паведамленні, звязаныя з пратэстамі. Згодна з рашэннем суда, матэрыялы, якія былі апублікаваныя на гэтым канале, утрымлівалі заклікі да масавых беспарадкаў.

**1 снежня** Міністэрства інфармацыі заблакавала доступ да сайта «Медиазона. Беларусь» (рэгіянальнага праекта расійскага інтэрнэт-СМІ «Медиазона»), канцэпцыя якога палягае ў асвятленні праваабарончай тэматыкі, судовых навін, працы пенітэнцыярнай сістэмы, пераследу грамадзян за іншадумства). У пісьмовым паведамленні Міністэрства інфармацыі гаварылася, што прычынай забароны доступу на тэрыторыі Беларусі стаў «распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі, прызнанай экстрэмісцкай» і згадвалася забарона канала NEXTA-Live.

**9 снежня** на падставе рашэння Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь быў заблакаваны доступ да інфармацыйнага сайта Kyky.org.

## Пазбаўленне партала TUT.BY статусу СМІ

**18 верасня** Міністэрства інфармацыі звярнулася ў Эканамічны суд з позвай пра пазбаўленне статусу СМІ найбуйнейшага беларускага партала TUT.BY. Падставай для гэтага Мінінфарм назваў вынясенне чатырох папярэджанняў у сувязі з парушэннем рэдакцыяй Закона аб СМІ з 7 жніўня па 15 верасня 2020 года (гл. падрабязней «Папярэджанні і патрабаванні»). Папярэджанні былі вынесеныя самім Міністэрствам інфармацыі. Пры гэтым судом не былі выяўленыя факты парушэння выданнем заканадаўства, а тэрмін абскарджання трох папярэджанняў да звяртання ведамства ў суд яшчэ не мінуў.

**29 верасня**, не чакаючы судовага рашэння, міністр інфармацыі **Ігар Луцкі** выдаў загад пра прыпыненне выпуску сеткавага выдання TUT.BY з 1 кастрычніка 2020 года па 30 снежня 2020 года. Гэта пазбавіла карэспандэнтаў рэдакцыі журналісцкага статусу, што ўскладніла іх дзейнасць.

**3 снежня** Эканамічны суд Мінска прыняў рашэнне пазбавіць TUT.BY статусу СМІ (пасля абскарджання яно ўступіла ў сілу з 19 студзеня 2021 года).

## Перашкоды друку і распаўсюду незалежных газет

З **трэцяй дэкады жніўня** па надуманых прычынах дзяржаўная друкарня «Беларускі дом друку» стала адмаўляцца друкаваць недзяржаўныя газеты **«Народная воля», «Комсомольская правда в Беларуси», «Свободные новости плюс», «БелГазета».** Тады «Народная воля» і «Комсомольская правда в Беларуси» пачалі друкаваць свае наклады за межамі Беларусі, у Расіі. Аднак дзяржаўныя сеткі «Белпошта» і «Белсаюздрук», якія фактычна з'яўляюцца манапалістамі ў галіне распаўсюду перыядычных выданняў па падпісцы і ў розніцу, адмовіліся са спасылкай на розныя прычыны распаўсюджваць усе гэтыя газеты, нягледзячы на дамовы.

**Напрыканцы кастрычніка** стала вядома, што «Народная воля», «Комсомольская правда в Беларуси», «Свободные новости плюс» і «БелГазета» не ўключаныя ў падпісны каталог «Белпошты» на першую палову 2021 года.

Пасля вобшуку ў рэдакцыі **«Газеты Слонімскай»**, які адбыўся **9 лістапада** (гл. падрабязней: «Вобшукі, выняцце, пашкоджанне, канфіскацыя тэхнікі і носьбітаў інфармацыі»), у выніку якога было забрана ўсё абсталяванне, яго заснавальнік быў вымушаны накіраваць у Мінінфармацыі, РУП «Белпошта» і ў падатковую інспекцыю паведамленне аб прыпыненні дзейнасці па выданні папяровых газет з 10 лістапада 2020 года па 9 траўня 2021 года.

**13 лістапада** ў рэдакцыю **«Народнай Волі»** прыйшлі невядомыя людзі, якія не назваліся і заявілі, што яны хочуць забраць увесь свежы тыраж газеты. Кіроўцу і двух валанцёраў, якія прывезлі нумар газеты, затрымалі супрацоўнікі АМАП, якія і забралі ўвесь тыраж без аніякіх дакументаў і тлумачэнняў. Пазней высветлілася, што кіроўцу, якога затрымалі разам з газетамі, адпусцілі, але яго машына разам з тыражом «Народнай волі» і іншым грузам засталіся ў Ленінскім РУУС Мінска. Каб высветліць, хто былі тыя людзі, якія прыходзілі ў рэдакцыю і на якой падставе яны забралі наклад, выданне звярталася з афіцыйным лістом ва ўпраўленне Следчага камітэта па горадзе Мінску. **15 лістапада** стала вядома, што маскоўская друкарня, дзе друкаваліся апошнія нумары газеты, скасавала дамову прадастаўлення паслуг «Народнай волі». Больш за тое, да друкарні паўсталі пытанні ў Расспажыўнагляду – ён прыпыніў дзейнасць друкарні на 20 дзён. Яшчэ тры маскоўскія друкарні адмовіліся супрацоўнічаць з беларускім выданнем. **17 лістапада** рэдакцыя «Народнай волі» паведаміла, што вырашыла прыпыніць выхад папяровага выдання.

**30 лістапада** на імя галоўнага рэдактара **«Брестской газеты»** Віктара Марчука па факсу прыйшоў ліст за подпісам дырэктара «Брэсцкай друкарні» Вячаслава Шахлевіча, у дакуменце паведамлялася, што з 1 студзеня 2021 года новая дамова з ТАА «Брестская газета» на выпуск газет заключацца не будзе.

# Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі

## Абмежаванні доступу да інфармацыі пра COVID-19

**21 сакавіка Аляксандр Лукашэнка** на нарадзе з членамі ўрада і кіраўнікамі дзяржорганаў запатрабаваў разабрацца з распаўсюднікамі фэйкаў пра смерці з прычыны каранавіруса. Ён даручыў старшыні КДБ Валерыю Вакульчыку «добранька прайсціся» па сайтах і каналах. Паводле слоў Лукашэнкі, неабходна разабрацца з «нягоднікамі, якія ўкідваюць гэтыя фэйкі».

**30 сакавіка** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» апублікавала заяву аб неабходнасці надання аператыўнай і праўдзівай інфармацыі пра распаўсюд COVID-19. Заяву ГА «БАЖ» падтрымалі найбуйнейшы навінавы інтэрнэт-рэсурс краіны TUT.by, інфармацыйнае агенцтва БелаПАН і сайт Naviny.by.

Аднак гэтая звароты засталіся непачутымі. Апошні брыфінг Міністэрства аховы здароўя для журналістаў, на якім яны маглі б задаваць пытанні прадстаўнікам міністэрства, адбыўся **17 красавіка**. На наступным брыфінгу праз тыдзень Міністэрства аховы здароўя абмежавалася зачытваннем прэс-рэлізу без магчымасці для журналістаў задаваць пытанні. Пасля гэтага міністэрства пачало падаваць інфармацыю толькі праз свае прэс-рэлізы.

## Іншыя абмежаванні доступу да інфармацыі

**9 студзеня** ў суд Фрунзенскага раёна Мінска не пусцілі журналіста **Змітра Буянава**, які супрацоўнічае з тэлеканалам «Белсат». Па ўказанні памочніка старшыні суда Ганны Жураўскай яго не прапусцілі, бо аператар меў пры сабе відэакамеру.

**15 студзеня** журналістаў найбуйнейшага незалежнага інфармацыйнага агенцтва **БелаПАН** не акрэдытавалі на прэс-падыход па выніках сустрэчы з прэм'ер-міністрам Латвіі Крыш'янісам Карыньшам. Прэс-сакратар Савета Міністраў Беларусі Аляксандра Ісаева паведаміла, што на сустрэчу «запрошана абмежаванае кола журналістаў», у якое БелаПАН не патрапіў.

**28 лютага** журналісты-фрылансеры **Алесь Ляўчук** і **Мілана Харытонава**, што супрацоўнічаюць з тэлеканалам «Белсат», рабілі сюжэт пра супрацьстаянне кінааматараў і пракатчыкаў кіно ў Брэсце. Калі яны прыехалі ў дзяржаўнае аб'яднанне «Брэстаблкінавідэапракат» і патэлефанавалі ў дамафон, сакратарка прадпрыемства адказала, што не пусціць у памяшканне, бо ў журналістаў «няма акрэдытацыі». Алесь Ляўчук і Мілана Харытонава ўсё ж трапілі ў прыёмную дырэктара Дзмітрыя Селюка, але там зноў пачулі, што ёсць загад іх не пускаць.

**4 сакавіка** журналіст «Радыё Свабода» **Аляксандр Дашчынскі** не быў дапушчаны ў будынак адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска, куды ён прыйшоў на асабісты прыём да намесніка кіраўніка адміністрацыі Цэнтральнага раёна Дзяніса Жыбуля, пасля таго, як некалькі дзён запар спрабаваў атрымаць каментар кіраўніцтва адміністрацыі з нагоды зносу аднаго з прыватных дамоў па вуліцы Ціміразева. Супрацоўнік міліцыі, які ажыццяўляў пропуск у будынак, проста не прапусціў яго, паведаміўшы, што ніякага каментара ад Дзяніса Жыбуля не будзе. ГА «БАЖ» звярнулася да чыноўнікаў за каментарамі, але так і не змагло іх атрымаць. Начальнік упраўлення ідэалагічнай работы адміністрацыі Цэнтральнага раёна Юрый Цаба раніцай 5 сакавіка пацвердзіў, што чуў пра інцыдэнт, і паабяцаўператэлефанаваць і растлумачыць сітуацыю. Пасля гэтага прадстаўнік ГА «БАЖ» не змог датэлефанавацца не на службовы тэлефон чыноўніка, не ў прэс-службу Мінскага гарвыканкама. Калі ён звярнуўся да прэс-сакратара Мінгарвыканкама Алены Мохар па яе асабістым

тэлефоне, яна паведаміла, што знаходзіцца ў адпачынку і параіла працягваць званіць на нумар прэс-службы, пасля чаго дапусціла ў размове грубую нецэнзурную лаянку і спыніла размову.

4 сакавіка Баранавіцкі занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі адмовіўся даць інфармацыю карэспандэнту недзяржаўнай раённай газеты Intex-press аб мерах па недапушчэнні распаўсюду каранавіруснай інфекцыі ў Баранавічах. Намесніца галоўнага ўрача Вольга Аніскевіч сказала журналісту, што галоўным урачом БЗЦГіЭ было прынята рашэнне «не даваць вам інтэрв'ю», і парэкамендавала звярнуцца ў прэс-службу Міністэрства аховы здароўя.

30 сакавіка журналістцы інфармацыйнага агенцтва БелаПАН адмовілі ў акрэдытацыі на сустрэчу пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па правах чалавека, нацыянальных адносінах і СМІ, у парадку дня якой было пытанне «Аб забеспячэнні права грамадзян на атрыманне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі і папярэджанні распаўсюду недакладнай інфармацыі ва ўмовах пандэміі каранавіруса. Заканадаўства і правапрымяняльная практыка». У прэс-службе Палаты прадстаўнікоў заявілі, што ў сувязі з эпідэміялагічнай сітуацыяй у краіне камісія прыняла рашэнне запрасіць для асвятлення пасяджэння толькі дзяржаўнае агенцтва БелТА. Гэтую інфармацыю пацвердзіў старшыня камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і СМІ Генадзь Давыдзька, да якога БелаПАН звярнуўся па каментар: *«Мы запрасілі толькі БелТА. Яна (сустрэча – БелаПАН.) Не носіць закрыты або таемны характар, але мне хацелася б без вашага інфармагенцтва, таму што я не стаўлюся да вас як да аб'ектыўных вяшчальнікаў... Я шмат разоў чытаў нейкія дзіўныя публікацыі ў вас, відавочна не зацікаўленыя вы ў дзяржаве».*

3 чэрвеня начальнік упраўлення адукацыі Слонімскага райвыканкама Святлана Валько адмовілася расказаць журналісту незалежнай «Газеты Слонімскай», хто з таленавітых дзяцей раёна атрымаў падтрымку са спецфонду прэзідэнта. Яна заявіла: *«Мы гэтую інфармацыю дадзім дзяржаўнай газеце, што там будзе напісана, то і напішаце».*

11 чэрвеня была анулявана акрэдытацыя журналістаў недзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелаПАН на пасяджэнне Палаты прадстаўнікоў. Спачатку журналісты інфармагенцтва атрымалі пацверджанне акрэдытацыі, аднак пазней ім перазванілі і сказалі, што акрэдытацыя анулюецца. Супрацоўніца прэс-службы Палаты прадстаўнікоў Вікторыя Цімафеева паведаміла, што такое рашэнне прынята кіраўніцтвам быццам у сувязі з пандэміяй COVID-19.

16 чэрвеня Беларуская федэрацыя футбола (АБФФ) выступіла з афіцыйнай заявай пасля таго, як вядомага спартыўнага каментатара Аляксандра Пуцілу не пусцілі на матч чэмпіянату Беларусі па футболе паміж «Тарпеда-БелАЗам» і брэсцкім «Дынама», што здарылася ўпершыню за 30 гадоў яго дзейнасці ў спартыўнай журналістыцы, прычым нягледзячы на акрэдытацыю, якую яму выдала раней федэрацыя футбола. У заяве тлумачылася, што АБФФ быў праведзены аналіз парадку акрэдытацыі тэлебачання і радыё: *«Па выніках гэтага аналізу было ўстаноўлена, што мелі месца выпадкі акрэдытацыі замежных СМІ, якія не маюць акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Тым самым не выконвалася патрабаванне пункта 3 артыкула 35 Закона Рэспублікі Беларусь аб сродках масавай інфармацыі. У сувязі з адсутнасцю ў тэлеканала «Белсат» акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, а таксама ў сувязі з адсутнасцю дзеючага пагаднення з АБФФ аб умовах акрэдытацыі СМІ, якое з'яўляецца абавязковым для атрымання ТБ і радыё акрэдытацыі, АБФФ прынята рашэнне не працягваць супрацоўніцтва з журналістамі тэлеканала «Белсат»...».*

24 чэрвеня карэспандэнту «Газеты Слонімскай» не дазволілі прысутнічаць на пасяджэнні камісіі па пытанні стварэння ўчастковых камісій па выбарах прэзідэнта ў Слонімскім райвыканкаме, спаслаўшыся на эпідэмію COVID-19.

**2 ліпеня** стала вядома, што спартоўцам і трэнерам пад пагрозай «непажаданых наступстваў» забаранілі кантактаваць з недзяржаўнымі СМІ. Гэта ананімна паведамілі «Радыё Свабода» два атлеты, якія раней выступалі ў складзе алімпійскай зборнай Беларусі.

**22 ліпеня** старшыня Ганцавіцкага райвыканкама Уладзімір Бялоў выказаў незадавальненне тым, што журналісты газеты «Ганцавіцкі час» **Пётр Гузаеўскі і Сяргей Багроў** здымалі на відэа звычайны сход жыхароў аднаго са шматкватэрных дамоў у Ганцавічах, дзе прымаў удзел чыноўнік. Пазней ён паскардзіўся ў міліцыю на тое, што журналісты нібыта ладзілі незаконную відэатрансляцыю. Пётр Гузаеўскі і Сяргей Багроў далі тлумачэнні міліцыі, пасля чаго галоўны рэдактар выдання Пётр Гузаеўскі паведаміў пра намер звярнуцца ў праваахоўныя органы, каб распачаць крымінальную справу на падставе арт. 198 КК (Перашкода законнай журналісцкай дзейнасці).

**1 жніўня** начальніца аддзела ідэагалічнай працы і па справах моладзі Бабруйскага гарвыканкама Таццяна Гарбачова не дазволіла прайсці ў адрамантаваную гарадскую дзіцячую бальніцу карэспандэнтам анлайн-газеты **«Бобруйский курьер».** На экскурсію па бальніцы пасля ўрачыстай цырымоніі адкрыцця запрасілі ўсіх прысутных, але калі разам з усімі ў будынак хацелі прайсці карэспандэнты «Бобруйского курьера», у дзвярах з'явілася Гарбачова і сказала, што далей іх не прапусціць: «*У вас няма акрэдытацыі, вы не маеце права ўвайсці. Тут праводзіцца мерапрыемства для кіраўніцтва і акрэдытаваных журналістаў*».

**17 жніўня** ў Брэсце напярэдадні гульні футбольнага клуба «Дынама-Брэст» журналісту-фрылансеру **Алесю Ляўчуку** патэлефанавала прэс-аташэ клуба Ніна Кананюк і паведаміла, што служба бяспекі адмовіла яму ў акрэдытацыі. Пры гэтым ніякіх тлумачэнняў наконт гэтай адмовы не прагучала. Ляўчук, які 19 гадоў асвятляў футбольныя спаборніцтвы ў якасці журналіста, палічыў гэтае рашэнне палітычна матываваным.

## Перашкоды дзейнасці карэспандэнтаў замежных СМІ

**6 мая** стала вядома, што Міністэрства замежных спраў Беларусі пазбавіла акрэдытацыі здымачную групу **Першага канала (Расія)**. Інфармацыя пра гэта з'явілася ў вячэрніх навінах на дзяржаўным тэлебачанні. Прычыну пазбаўлення тэлеканала акрэдытацыі ў МЗС не называлі, аднак, верагодна, гэта было звязана з шэрагам рэпартажаў, у якіх распавядалася пра сітуацыю з распаўсюдам COVID-19 у Беларусі. Апошні з іх выйшаў 6 мая раніцай. У ім карэспандэнт Аляксей Кручынін распавёў пра рэзкі рост колькасці захварэлых на каранавірус у Стаўбцах і гутарыў з некалькімі жыхарамі Стаўбцаў, чые родныя памерлі ад каранавіруса. Пасля пазбаўлення акрэдытацыі гэтага журналіста выслалі з краіны.

**Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў не менш за 100 журналістаў** замежных СМІ, якія звярнуліся па акрэдытацыю ў Міністэрства замежных спраў Беларусі, не атрымалі адказу ў вызначаны законам тэрмін быццам бы на падставе таго, што камісія МЗС па акрэдытацыі не можа правесці пасяджэнне з-за эпідэміі COVID-19. У выніку карэспандэнты так і не атрымалі акрэдытацый і не змаглі працаваць легальна.

**У жніўні,** падчас паствыбарчых пратэстаў, **не менш як 50-ці замежным журналістам** быў забаронены ўезд у Беларусь. Гэтак, паводле афіцыйнага паведамлення Памежнага камітэта толькі **18 жніўня** ў пункце пропуску «Нацыянальны аэрапорт «Мінск» было адмоўлена ва ўездзе ў Рэспубліку Беларусь 17-ці прадстаўнікам замежных СМІ «з прычыны адсутнасці акрэдытацыі для ажыццяўлення журналісцкай дзейнасці на тэрыторыі нашай краіны».

Некаторыя з замежных карэспандэнтаў, якія працавалі ў краіне без акрэдытацыі, былі затрыманыя і затым дэпартаваныя з забаронай на ўезд у Беларусь цягам некалькіх гадоў.

**29 жніўня** Міністэрства замежных спраў адклікала акрэдытацыі як мінімум **19 замежных карэспандэнтаў**. Былі пазбаўленыя права ажыццяўляць прафесійную дзейнасць у краіне журналісты тэлеканала ARD, Associated Press, BBC, «Радыё Свабодная Еўропа/Радыё Свабода» (РСЕ/РС), Reuters, AFP, RFi і інш. Усе журналісты, пазбаўленыя акрэдытацыі, якія мелі грамадзянства іншых дзяржаў, былі высланыя з Беларусі.

**18 верасня** кіраўнік МЗС Уладзімір Макей заявіў, што *«ў выпадку, калі будуць прынятыя нейкія санкцыйныя меры ў дачыненні да Беларусі, то, мяркую, і беларускай дзяржавай будуць прынятыя адпаведныя крокі, звязаныя з ўнутрыпалітычным функцыянаваннем дзяржаў. Гэта можа тычыцца і палітычнай сістэмы, і функцыянавання замежных СМІ, акрэдытаваных у Беларусі, і шэрагу іншых крокаў».*

**2 кастрычніка** МЗС наогул адмяніў акрэдытацыі ўсіх журналістаў замежных СМІ, патлумачыўшы гэта распрацоўкай новага Палажэння аб акрэдытацыі.

## Іншыя формы ціску і парушэння правоў журналістаў і СМІ

**7 мая** рэчыцкі журналіст-фрылансер **Андрэй Мядзведзеў** быў апытаны ўчастковым інспектарам межах распачатай праверкі паводле арт. 189 Крымінальнага кодэкса (Абраза) з прычыны нібыта публічнай знявагі ў сацыяльнай сетцы Ігара Сяргеева, галоўнага рэдактара мясцовай раённай газеты. З матэрыялаў праверкі вынікала, што на допіс журналіста ў сацсетцы ўвагу звярнуў старшы оперупаўнаважаны групы па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій Рэчыцкага РАУС маёр міліцыі Андрэй Бутрам'еў. У рапарце начальніку РАУС ён паведаміў, што падчас маніторынгу сацыяльнай сеткі «ВКонтакте» выявіў допіс зняважлівага, на ягоную думку, характару, які патрапляе пад ч. 2 арт. 189 Крымінальнага кодэкса.

**18 чэрвеня** адбыўся агляд кватэры спартовага аглядальніка тэлеканала «Белсат» **Аляксандра Пуцілы** (бацькі папулярнага блогера NEXTA). У выніку агляду супрацоўнікі сілавых структур забралі ноўтбук і мабільны тэлефон Пуцілы.

Пасля вызвалення з ізалятара часовага ўтрымання **14 жніўня** і на працягу некалькіх тыдняў, журналіст гродзенскага анлайн-выдання Hrodna.life **Руслан Кулевіч** падвяргаўся цкаванню ў дзяржаўных СМІ. Журналіст быў гвалтоўна затрыманы і жорстка збіты міліцыянтамі 11 жніўня ў цэнтры Гродна (гл. падрабязней «Фізічныя замахі»). Адразу пасля вызвалення журналіст стаў атрымліваць ананімныя пагрозы, таксама невядомыя размясцілі ў інтэрнэце асабістыя звесткі пра яго сям'ю і зневажальную інфармацыю. У сярэдзіне верасня ў эфіры дзяржаўных тэлеканалаў прадэманстравалі прапагандысцкі фільм «Протест наизнанку» ад Агенцтва тэлевізійных навін, дзе згадваўся Руслан Кулевіч. У прыватнасці, у фільме сцвярджалася, што тое, што яму зламалі рукі пасля затрымання, нібыта няпраўда.

**15 кастрычніка** галоўнаму рэдактару сеткавага СМІ «Медыя-Палессе» **Святлане Гарда** патэлефанаваў намеснік начальніка аддзела ўнутраных спраў Лунінецкага райвыканкама, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі Віталь Рылач. Ён сказаў, што рэдактар павінна прыйсці ў РАУС і даць тлумачэнні з нагоды здымкаў відэа 9 жніўня 2020 года, але тая папрасіла належным чынам аформіць позву. Тады Віталь Рылач сказаў, што яны «прыедуць і забяруць у кайданках». Раней да дадому да Святланы Гарда прыязджалі супрацоўнікі міліцыі і патрабавалі ў сваякоў сказаць, дзе яна знаходзіцца, бо павінна прыбыць у аддзяленне міліцыі, нібыта для гутаркі.

**17 лістапада** на памежным пераходзе «Новая Гута», пры вяртанні ў Беларусь пасля адпачынку, у гомельскай журналісткі **Ларысы Шчыраковай** забралі ноўтбук «для праверкі» на 20 дзён. Пры перасячэнні мяжы з усёй групы толькі ў яе ўважліва даглядалі асабістыя рэчы.

**16 снежня** старшыню ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Андрэя Бастунца дапыталі ў Цэнтральным апараце Следчага камітэта ў якасці сведкі па крымінальнай справе, заведзенай паводле ч. 3 арт. 361 Крымінальнага кодэкса (заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь).

**29 снежня** ў аддзяленні міліцыі ў Івацэвічах ў якасці сведкі па справе журналіста Сяргея Гардзіевіча (гл. падрабязней «Крымінальныя справы») быў дапытаны рэдактар 1reg.by **Павел Дайлід**. У той час, калі ён знаходзіўся там, хтосьці выкарыстаў ягоны смартфон, пакінуты ў камеры захоўвання, і выдаліў чат Viber, у якім Гардзіевіч нібыта дапусціў абразлівае выказванне.

## Канфлікты ў дзяржаўным медыясектары

Яшчэ падчас перадвыбарчай кампаніі, калі распачаліся гвалтоўныя разгоны акцый пратэсту супраць пазбаўлення шэрагу патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты магчымасці ўдзельнічаць у выбарах, шэраг супрацоўнікаў дзяржаўнага тэлебачання публічна выступілі з асуджэннем такой палітыкі ўладаў. З-за гэтага ў чэрвені-ліпені яны былі былі вымушаныя пакінуць сваё месца працы. Першым з іх стаў **Артэміс Ахпаш**, тэлерадыёвядоўца, які працаваў на дзяржканалах СТБ, АНТ і «Беларусь 2». Ён напісаў эмацыйны пост у сваім *Instagram*-акаўнце, у якім звяртаўся да сваіх калег. Пасля крытычных заўваг на адрас уладаў ад працы ў эфіры былі адхіленыя таксама: **Меліціна Станюта, Кацярына Пытлева, Антон Мартыненка**.

Пасля выбараў, калі стала вядома пра жорсткія дзеянні сілавікоў у дачыненні да мірных дэманстрантаў, многія супрацоўнікі дзяржаўных СМІ выказалі абурэнне падзеямі, што адбыліся ў краіне, перш за ўсё, збіццём і катаваннямі ў ізалятарах, праз якія прайшлі затрыманыя дэманстранты. На некаторых тэлеканалах, радыё і ў рэдакцыях газет прайшлі забастоўкі. Самай буйной была забастоўка каля будынка Белтэлерадыёкампаніі **18 жніўня**. Заяву з патрабаваннямі да кіраўніцтва прызнаць несапраўднымі вынікі прэзідэнцкіх выбараў, вызваліць усіх палітвязняў і адмяніць цэнзуру падпісалі каля **300 человек**. Супрацоўнікаў Белтэлерадыёкампаніі, якія падтрымалі забастоўку, міліцыянты перасталі пускаць у будынак кампаніі. Дзяржаўныя тэлеканалы пакінулі: **Уладзіслаў Татур, Яраслаў Пісарэнка, Андрэй Іваноў, Яўген Перлін, Сяргей Казловіч, Вера Карэтнікава, Андрэй Макаёнак, Вольга Белмач, Юрый Ярошык** і іншыя.

Некаторыя з былых супрацоўнікаў дзяржаўных медыяў былі затрыманыя і асуджаныя да арышту, што можа разглядацца як метад аказання ціску і запалохвання іншых журналістаў, якія хацелі б пакінуць дзяржаўныя СМІ. Так, напрыклад, **11 верасня** былы кіраўнік прэзідэнцкага пулу, вядоўца ОНТ **Дзмітрый Семчанка** атрымаў 15 сутак адміністрацыйнага арышту.

Па звестках ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», не менш **за 80** супрацоўнікаў дзяржаўных СМІ пакінулі працу. Так паступіла пераважная большасць супрацоўнікаў дзяржаўнай штодзённай газеты **«Звязда»** і дзяржаўнай рэгіянальнай радыёстанцыі **«Радыё Сталіца»**. 20 жніўня **Павел Сухарукаў**, галоўны рэдактар газеты «Звязда» і Выдавецкага дома «Звязда», быў адхілены ад сваёй пасады (на яго месца быў прызначаны Аляксандр Карлюкевіч, экс-міністр інфармацыі).

У краіну для працы ў дзяржаўнай Белтэлерадыёкампаніі былі запрошаныя спецыялісты з Расіі. Яны замянілі беларускіх супрацоўнікаў, якія баставалі. Паводле звестак расійскага агенцтва РБК, у Мінск

прыехалі здымачныя групы расійскага тэлеканала RT: іх журналісты з'явіліся ў пуле Аляксандра Лукашэнкі і асвятлялі яго паездкі па краіне.

**14 жніўня** ў Жодзіне праз «матэрыялы, якія дэстабілізуюць абстаноўку» было спынена вяшчанне гарадскога тэлеканала **«Сфера»**, у прыватнасці, размова ішла пра «рэпартажы і відэа з гвалтоўнымі разгонамі пікетаў замежнага паходжання», «меркаванні замежных палітолагаў», «рэтрансляцыю матэрыялаў з каналаў, забароненых на тэрыторыі Беларусі», заклікі да забастовак. Яго дырэктара, **Эльшада Акберава**, адхілілі ад пасады. Апошняй кропляй для ўладаў сталі трансляцыя ў эфіры «Сферы» звароту былых жодзінскіх міліцыянтаў да сваіх калег, а таксама праграм расійскіх блогераў Іллі Варламава і Максіма Каца.

**10 снежня** на «Радыё-Мінск» не выйшла праграма «Прычыны і следства», якую вялі былы прэс-сакратар МУС, а пазней намеснік дырэктара холдынгу «Мінск-Навіны» Дзмітрый Партон і афіцыйная прадстаўніца Следчага камітэта Юлія Ганчарова. Напярэдадні стала вядома, што два сыны Партона былі затрыманыя падчас нядзельнага пратэстнага маршу і асуджаныя на 13 сутак адміністрацыйнага арышту.